# МАМЭНТ

## АДНАДНЁЎКА

Вільня, Нядзеля, 21-га верасьня 1924 г.

## Англія і беларускае пытаньне.

У апошнія часы англійскія палітыкі зварачаюць асаблівую ўвагу на *беларуекае пытаньне*.

Гэта ня значыць, што ў іх разам разгарэлася нейкая асаблівая любоў да беларускага народу, ці жаданьне яго ашчасьлівіць. Не: цікавасьць да беларусаў выяўляецца ў Англіі спэцыяльна ў сувязі з *польскім пытаньнем*.

Справа вось у чым.

Дзеля захаваньня і ўмацаваньня на магчыма даўжэйшы час міру ў Эўропе, так патрэбнага ўсім вялікім дзяржавам, дзяржавы гэныя—а перад усім Англія (як гэта зусім шчыра гаварыў на сэсіі Лігі Народаў Мак-Дональд)—стараюцца прымірыць найвялікшых дзяржаўных волатаў коштам малых дзяржаў, а перад усім—Польшчы. І ўжо зусім адкрыта гаворыцца аб патрэбе „паправіць" абмылку Лігі ў справе Горнага Сьлёнску, а такжа аб павароце тэрыторыяльнае суцэльнасьці Нямеччыны дарогай зьмены пастановы Вэрсальскага Трактату аб так-званым Гданскім калідоры.

Але гэты рашучы крок, калі ён і будзе зьдзейсьнены, ня гледзячы на ўсе пратэсты Польшчы, можа ўхіліць пагрозу вайны *толькі на заходняй граніцы* Польскае Рэспублікі... Бо-ж, паміма пагрозы з боку Нямеччыны, істнуе яшчэ другая пагроза—*з Усходу*. І гэтая пагроза зьвязана іменна з пытаньнем беларускім (а таксама украінскім) з увагі на тое, што ў склад Польшчы папала частка Беларусі (дый Украіны), пад той час, як большасьць беларусаў знаходзіцца ў межах ССРР. А такі падзел жывога народу ў сувязі з *працібеларускай палітыкай* Польшчы выклікае стан бязупыннага нездаваленьня, як у Заходняй, так і ў Усходняй Беларусі, даючы повад ураду ССРР мяшацца да ўнутраных спраў Польскага Гаспадарства.

Ведама, што, пры першай аказіі, на гэтым грунце лёгка можа выбухнуць вайна на ўсходніх граніцах Польшчы. Але магчыма яна пастольку, паскольку беларускае насяленьне Заходняе Беларусі будзе мець *прычыну дзеля нездаваленьня* польскай палітыкай, пакуль будзе імкнуцца да свайго палітычнага ідэалу—*незалежнасьці і абяднаньня ўсіх Беларускх зямель.*

Мак-Дональд, знайшоўшы лёгкі, хоць для Польшчы цяжкі, спосаб ухіленьня магчымае сутычкі на захадзе, шукае такога-ж спосабу, каб недапусьпіць аружнага змаганьня і на ўсходзе Польшчы. Англійскія палітыкі лепш за польскіх разумеюць ролю Заходняе Беларусі ў магчымым канфлікце Польшчы з ССРР. І вось, судзячы паводле пытаньняў, задаваных п. Морэлем у Вільні беларускім дзеячом, можна сьмела зрабіць вывад, што п. Морэля прыслаў з Лёндану ягоны прыяцель, п. Мак-Дональд, каб атрымаць зусім ясны адказ на такія пытаньні:

— Ці магчыма дабіцца ад Польшчы такіх уступак, якія зусім здаволілі-бы беларускае насяленьне ў Заходняй Беларусі?

— Ці, у прыпадку польскае згоды на гэтыя ўступкі (аўтаномія Зах. Беларусі?!), беларусы ў Польшчы зракуцца думкі аб злучэньні з Усходняй Беларусяй?

Зусім зразумела, што ад адказу на гэтыя асноўныя пытаньні будзе залежаць і вынаход спосабу забясьпечаньня міру на ўсходніх граніцах Польшчы. І вось Англія першы раз зусім паважна падыходзе да беларускага пытаньня наагул.

Які-ж адказ завязе п. Морэль свайму прыяцелю—прэм'еру?

Трудна сказаць. Можам толькі адзначыць, што беларусы, навучаныя горкімі лекцыямі п. Пілсудскага, ня вельмі вераць у магчымасьць згоды Польшчы на далёка сягаючыя ўступкі беларусам. А як прыняў-бы іх наш народ, калі-б яны ўсё-ж такі былі зьдзейсьнены, аб гэтым нельга й загадываць, пакуль ня зьменіцца настрой, які, дзякуючы польскай палітыцы, запанаваў сярод беларускіх народных масаў.

„Cum tacent, clamant".—У сваім маўчаньні яны голасна крычаць, і гэты крык ня суліць міра...

124801

### Дэлегацыя беларусаў, украінцаў і літвіноў у Лізе Народаў.

У Жэневу прыехала дэлегацыя ад беларусаў, украінцаў і літвіноў—у асобах Петрушэвіча, проф. Лозінскага, Ластоўскага і Валіоніса.

Дэлегацыя нарыхтавала канфэрэнцыю з журналістамі ў справе палажэньня меншасьцяў у Польшчы. Ня пусьцілі толькі польскіх журналістаў.

## Інтрыга Антанты.

Нават у польскай прэсе часта прыходзіцца чытаць аб тым, што эканамічны стан Савецкіх Рэспублік значна наладзіўся, што „крывавая" чрэзвычайка ўціхамірылася, што вырашэньне нацыянальнага пытаньня можа шмат чаго навучыць польскіх палітыкаў, і—раптам даходзяць чуткі аб „паўстаньні" ў Грузіі.

Гэтую вестку ўсе згаладалыя буржуазныя газэты сквапна падхапілі і заюрылі такую лухгу і так зарапартаваліся, што часта самі сабе пярэчаць. Усю прычыну у паўстаньні бачаць у нацыянальным уціску ў Грузіі і побач з тым адзначаюць, што Грузія мае свае унівэрсытэты, школы, газэты ў роднай мове і іншае. Далей захлёбаючыся апісываюць аб крывавым падаўленьні праз бальшавікаў гэтага паўстаньня, аб тым, што Ліга Народаў вельмі зацікаўлена падзеямі ў Грузіі і хоча ўступіцца за „tonącą w krwi Gruziją" і што ўрад гэтых паўстанцаў, на чале якога стаіць князь, зьвярнуўся да Мак-Дональда, просячы апекі і помачы.

Вось тут і вылезла тыла з мяшка. Трэба толькі крыху паразважыць, і ясна стане, што ўсё гэтае паўстаньне ёсьць ня што іншае, як інтрыга тэй жа Антанты, якой ітснаваньне Савецкіх Рэспублік не дае спакойна спаць.

Рэч ужо даведзеная, што Усход прабуджаецца, што бальшавізм што раз глыбей запускае туды карэньні. Напрыклад, адзін з правадыроў цяперашняй кітайскай рэвалюцыі аб'явіў сябе бальшавіком і вядзе барацьбу за рабоча-сялянскую ўладу. Мы ведаем, як шырыцца камуністычная ідэя ў Індыі, Японіі, Палестыне, Турцыі і г. д.

Усё гэта сьмяротна трывожа буржуазную Эўропу, асабліва Англію, якая жывець Усходам і дрыжыць за яго. І вось, каб адхіліць уплыў бальшавікоў на Турэччыну і наагул на Азію, каб стварыць вал незалежных рэспублік на манер як Польшча, Літва, Румынія і іншыя, дык той жа Мак-Дональд і ўся буржуазная хэўра, якая сабралася на сэсіі Лігі Народаў, каб нібы то разброіць Народы, штучна ствараюць паўстаньне ў Грузіі.

З другога боку нафта, якая займае што раз выдатнейшае месца ў разьвіцьці прамысловасьці, служыць прычынай усё больш запальчывых спрэчак паміж капіталістамі і больш заблутаных камбінацыяў сярод палітыкаў. Вось Грузія апрача іншых багацьцяў і з гэтага боку зьяўляецца ласым кавалкам. У апошнія часы шмат у якіх мясцох Грузіі павынаходзілі багатыя крыніцы нафты. Апрача таго Грузія—найлепшая дарога да нявычарпаных крыніц нафты Азэрбайджану (Батум-Баку).

## Да прыезду п. Морэля.

17-га верасьня ў Вільні гасьціў выдатны прадстаўнік англійскай Партыі Працы, асабісты прыяцель Мак-Дональда, п. Морэль. Мэтай яго прыезду было на месцы пазнаёміцца з палажэньнем, крыўдамі і настроямі беларускага і літоўскага насяленьня. Дзеля гутаркі з прадстаўнікамі гэтых нацыянальнасьцяў п. Морэль вызначыў час ад 4 да 6 гадзіны папалудні.

Але „гасьціннае" польскае грамадзянства чуць што не перашкодзіла англійскаму парляментарыю асабіста пагаварыць з прадстаўнікамі „меншасьцяў". Ад самай раніцы п. Морэля абступілі палякі (пераважна пэпээсы). Зьявіўся аўтамабіль з проф. Рушчыцам і інш., каб павезьці госьця ў Трокі—паказаць яму хараство „польскае прыроды". Меліся на 4 гадзіну вярнуцца, але... Але ў дарозе машына „папсавалася", і п. Морэль мог вярнуцца ў сваю гасьцініцу ў Вільні толькі **пасьля 6 гадз.**, дый то яго ўжо чакалі таксама гасьцінныя „таварышы" пэпээсы, каб... завязьці на вячэру, уладжаную ў „таварыша" Чыжа (вядомы тым, што некалі „быў" і беларусам!). А як п. Морэлю трэба было канечне выехаць з Вільні ў 9 гадз. 40 м. вечара, дык на гутарку з „меншасьцямі" у англійскага гасьця не хапіла-бы зусім часу....

Але п. Морэль ацаніў „добрыя інтэнцыі" гасьцінных „таварышоў" і... адмовіўся ад вячэры! Затое прыняў беларускага пасла Б. Тарашкевіча, а так-жа прадстаўнікоў літвіноў і даведаўся, што яму трэба было.

Прыпамінаецца падобная гісторыя з прыездам у Варшаву п. Друммонда, сэкратара Лігі Народаў. Таго дык тагачасны міністар загр. спраў п. Сэйда „дакапаў" сваей гасьціннасьцяй. А іменна: на просьбу п. Друммонда даць яму магчымасьць пагутарыць з беларускімі і украінскімі дэпутатамі, п. Сэйда зрабіў у сябе „гарбатку" акурат у той дзень, калі нікога з паслоў у Варшаве ня было, а дзеля „пэўнасьці", каб нават пуыпадкам засядзеўшыся прадстаўнік „меншасьцяў" ня мог туды папасьці, запросіны на гэную „гарбатку" разаслаў... за гадзіну да назначанага часу!

П. Сэйда аказаўся больш спрытным за віленскіх пэпэсаў і свайго дапяў: п. Друммонд так і паехаў з Польшчы, ня бачыўшы тых, з кім хацеў гаварыць. П. Морэль дужа добра зразумеў усю справу і—бачыў тых, каго хацеў, ухіліўшыся ад лішне ўжо назойлівае польскае гасьціннасьці...

Гэтая-ж нафта служыць прынадай для заключэньня гандлёвых дагавораў з Саветамі. Капіталісты калісь думалі сілай штыка праз Калчака, Дэнікіна, Врангеля і другіх захапіць багацьці Савецкіх Рэспублік, але гэта ім не ўдалося, і ўложаны капітал на гэтых адміралаў і князёў прапаў. Пасьля настаў час канфэрэнцыяў, хацелі ўгаварыць, прылашчыць „цёмных і дзікіх", але так сама нічога не ўдалося. А цяпер узяліся за гандлёвыя дагаворы: вельмі-ж ім ужо рупіць тое багацьцё, якое знаходзіцца ў працоўных руках рабочых і сялян. І вось Англія першая рашыла „прызнаць" і „дагаварыцца" і сама не агледзілася, як наклікала на сябе бяду. З аднаго боку ўсе гэтыя гутаркі з чырвонымі дыпляматамі страшна абальшавізілі англійскую рабочую партыю, а з другога—дагавор канцы у канцоў вышаў такі, што ўсе банкіры і капіталісты проста валасы сабе рвуць.

Акалпачаныя капіталісты лішні раз пераканаліся, што з урадам рабочых і сялян няма для іх іншай гутаркі, як гутарка гармат. Але адкрыта выступіць баяцца, бо за плячмі маюць свой пралетарыянт, дык працуюць праз сваіх наймітаў.

Пачалося з Грузіі...

Дармо Савінков пасьпяшыў — мог бы прыгадзіцца.

ат.

